Opłata pocztowa uiszczona ryczałtem.

# БЕЛАРУСКІ ЗВОН

Радыкальная часапісь, выходзіць 4 разы ў месяц

Цана асобнага нумару 15 гр.

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі Вільня, Вострабрамская 9.

Прыймо інтэрэсантаў ад 10 да 2 г. што-дня, апрача сьвятаў і нядзель.

ПАДПІСКА з дастаўкай да хаты: на 1 год 4 зл. 50, за паўгоду 2 зл. 40, за 3 месяцы 1 зл. 30, за 1 месяц — 50 гр.

Год II. Вільня, 15 ліпеня 1932 г. № 19 (44)

## Фатальная легенда.

Калі-б падобную легенду нехта пачаў апавядаць сярод „цёмных“ *беларускіх* сялян, дык ёй, пэўне-ж, ніхто-б ня даў веры. І тым больш цікаўна, што паверылі ёй *польскія* сяляне, жыхары вёскі Ліск (у Галічыне), стаўшайся цяпер гістарычнай.

Было гэта — паводле ўрадавага камунікату — так:

Гмінная ўлада пастанавіла наладзіць грамадзкія работы дзеля папраўкі шасы. Але вось сярод сялян пачалі хадзіць гутаркі, пашыраныя быццам камуністамі, аб тым, што гэная грамадзкая праца ні-бы-то мае быць першым крокам да *ўзнаўленьня прыгону*. Апавядалі, што ў першую чаргу будзе разбураны крыж, пастаўлены на памятку аб скасаваньні прыгону, і спад крыжа дастануць закапаную пад ім скрыню з „прыгоннымі паперамі“, якія і *вернуць паншчыну*.

Гэтым гутаркам сяляне в. Ліск і акалічных вёсак паверылі, ня гледзячы на ўсю іх недарэчнасьць. І ня толькі паверылі, але й пастанавілі недапусьціць да гэнага сымболічнага акту ўскрашэньня прыгону. Сабраўся вялізарны натоўп народу, паліцыя пачала яго разганяць, і ў выніку рашучага становішча ўзбураных сялян *пралілася чалавечая кроў*...

Польская прэса розных кірункаў востра асуджае адміністрацыйныя ўлады, якія ня здолелі супакоіць сялянскі натоўп мірнымі спосабамі і пусьцілі ў ход аружжа проці грамадзян уласнае дзяржавы. Санацыйны „Кур'ер Поранны“ піша, што „выпадак у Ліску — гэта ганьба для польскае дзяржаўнае мысьлі“. Але нас цікавіць ня гэты бок пытаньня. Нас цікавіць пытаньне: *як сталася*, што польскія сяляне, якіх нам, „цёмным“ беларусам, заўсёды стаўляюць за прыклад высокае культурнасьці, *маглі* паверыць у праўдзівасьць фатальнае легенды?

Бязумоўна, мусілі быць нейкія аб'ектыўныя прычыны, якія зрабілі легенду ў вачох сялянства *праўдападобнай*. І прычыны гэтыя зробяцца зразумелымі для нас, калі прыпомнім некаторыя маманты з жыцьця *польскага* сялянства ў адроджанай Польшчы.

Ад самага пачатку існаваньня сучаснае Польшчы польскае сялянства — ў сувязі з яго першараднай роляй у вайне за незалежнасьць Польшчы — выявіла значную грамадзка-арганізацыйную актыўнасьць. Сярод яго папаўставалі вялікія сялянскія партыі, праводзіўшыя ў Сойм вельмі значную лічбу дэпутатаў, а павадыр польскае сялянскае партыі „Пяста“, Вітос, займаў неадночы становішча *галавы польскага ўраду*. Ясна, што надзеі польскіх сялян, якія, як і нашыя, лятуцяць аб зямлі і розных палёгках для сябе, ішлі вельмі далёка... Ажно раптам усё зьмянілася: Вітос пайшоў за краты (куды сам перш садзіў *беларускіх* сялян...), і партыя яго, іграўшая раней такую паважную ролю ў дзяржаўным жыцьці Польшчы, аказалася разьбітай. А разам з тым зьмалелі да нуля даўнейшыя ўплывы на жыцьцё дзяржавы, якія мела йшчэ гэтак нядаўна польскае сялянства, як кляса, — а затое выбілася наверх у соцыяльным жыцьці краю *абшарніцтва*, блізу цалком адсуненае ад дзяржаўнай працы ў тыл у першы найцяжэйшы пэрыяд будаваньня адроджанае Польшчы.

Гэтую зьмену польскае сялянства мусіла вельмі балюча адчуць — асабліва дзякуючы палітыцы абшарнікаў. Яны на кожным кроку стараліся даць сялянам пачуць сваю „цьвёрдую руку“. Яны адкрыта пачалі дамагацца ад дзяржавы асаблівае апекі над іх дабрабытам, які самі змарнавалі, — дамагацца вялізарнае дапамогі з народных грошаў, ня плацячы аднача сна належных дзяржаве падаткаў: жыцьцё панад стан не пакідала ім на гэта грошы... „Зубры“ (абшарнікі) праз цэлы рад утрымліваных іх коштам газэт з бяспрыкладным цынізмам трэбуюць, каб дзяржава ратавала гэтую збанкрутаваўшую клясу ад аканчальнае ліквідацыі, лічучы яе „найвялікшай нацыянальнай цэннасьцяй“...

Вось гэтыя нясупынныя дамаганьні „кармленьня“ абшарніцтва коштам усяго народу выклікалі рашучы адпор з боку дэмакратычнае часткі грамадзянства, каторая супрацоўнічае, як і самі абшарнікі, з урадам Польшчы. Асабліва востра выступіў у гэтай справе „Кур'ер Віленьскі“, які ў цэлым радзе стацей палемізаваў з ідэолёгам абшарніцтва—рэдактарам „Слова“, п. Мацкевічам. У аднэй з гэтых стацей дэмакратычны орган Б. Б. сьцьвярджае, што абшарніцкая кляса, як і ўся буржуазія, — гэта банкруты, жадаючыя толькі чым далей адцягнуць мамэнт няўхільнае для іх катастрофы. У гэтай стацьці падаюцца словы п. Мацкевіча, з якіх выразна выяўляецца *прыгонніцкая ідэолёгія абшарніцтва*: ідэолёг гэтае клясы называе „найвялікшай ганьбай скасаваньне прыгону і пазьнейшую зямельную рэформу“.

Калі гэтак характэрызуе ідэолёгію абшарніцтва польская дэмакратычная інтэлігенцыя з партыі Б. Б., дык нічога дзіўнага, што польскае сялянства, склоннае ўсё прымаць, як рэальнае, магло паверыць у гэтую фатальную легенду, якая давяла ў Ліску да крывавых падзеяў. Пралітая кроў польскіх сялян — гэта просты вынік правакацыйнага паступаньня польскіх абшарнікаў.

## Сьведамая мана́.

Няведаньне — ня грэшаньне, кажа ўсё выбачаючая беларуская народная мудрасьць

Але гэтая склоннасьць беларусаў да выбачаньня няведаючым мае свае межы. І народ з глыбокім абурэньнем адносіцца да тых-хто, хоць ня ведае, але робіць такі від, якбыццам ведае.

Дык мы з тым вялікшым абурэньнем мусім падаць на суд і нашага, і польскага грамадзянства апошняе проці-беларускае выступленьне абшарніцкага „Słowa“, на страніцах якога ведамы сваім зоолёгічным нацыяналізмам пан „прафэсар“ Уладыслаў Студніцкі бярэцца судзіць аб беларускай культуры, беларускай літэратуры і г. д., аб якіх ведае толькі адно: што нічога аб іх ня ведае.

Але-ж робіць від — з звычайнай у кожнага невука самапэўнасьцяй, што якраз аб гэтых справах ён вельмі многа „ведае“ і гэтым сваім „веданьнем“ дзеліцца з польскім грамадзянствам, якое, пэўне ж, за добрую манэту прымае брэдні гэнага пана „прафэсара“.

Абшарніцкі публіцыст, гаворачы аб стане беларускае культуры, як вельмі беднай, з поўнай сьвядомасьцяй фальшуе праўду аб беларусах, так нямілую „нашым“ абшарнікам. У вачох апошніх беларусы — гэта тая „рабочая скаціна“, якая працуе па іх дварох. Дык як жа можа быць, каб гэтыя „хамы“ мелі сваю культуру, свае культурныя цэннасьці, сваю літэратуру? І п. Студніцкі, падаючы запраўды-ж невялікую лічбу надрукаваных у 1929 годзе ў Заходняй Беларусі беларускіх кніжак (— што хіба-ж ня сьведчыць на карысьць дзяржавы, у якой мы тут жывём...), крывадушна замоўчывае ведамы кожнаму інтэлігентнаму чалавеку факт, што за гранічнай мяжой — на Усходзе, ня гледзячы на ўсю жудаснасьць чырвонага маскоўскага тэрору ў адносінах да нацыянальных імкненьняў беларусаў, кожны год выходзяць тысячы беларускіх кніжак, у тым ліку— вельмі многа паважных навуковых прац, што там працуе Беларуская Акадэмія Навук, працуе некалькі вышэйшых школ і г. д. І рэдакцыя „Słowa“ ня можа апраўдывацца тым, што яна ніби таксама „ня ведае“ аб творчай працы беларускага народу пад уладай СССР: бо ў адным з наступных нумароў „Słowa“ іншы аўтар полемізуе з беларускім прафэсарам Шчакаціхіным, які надрукаваў у Менску нязвычайна цэнную навуковую працу аб беларускім мастацтве. Праўда, як і п. Студніцкі, гэны другі абшарніцкі публіцыст стараецца даказаць (ведама-ж, зусім галаслоўна), што і ў мінуўшчыне беларусы ня мелі ані сваей культуры, ані свайго мастацтва. Але прынамся факту выхаду рэвэляцыйнае працы праф. Шчакаціхіна, уважліва спатканае нямецкімі навуковымі часопісямі, не ўкрывае.

„Не мошенство, не обманство, — одно проворство рук“ — казалі некалі ў Расеі ў гэтакіх выпадках...

Але пойдзем за „прафэсарам“ Студніцкім далей. Стараючыся даказаць сваю „тэзу“ аб нікчэмнасьці беларускае літэратуры, аб якой гэны пан ня мае навет „зялёнага“ паняцьця, п. Студніцкі з пэўнасьцяй сябе заяўляе:

„Мы ўвялі ў нашых вучыцельскіх сэмінарыях на тэрыторыі ўсходніх земляў па некалькі гадзін выкладаньня беларускае мовы і беларускае літэратуры. Аднак, у другім годзе не хапала ўжо беларускага матэрыялу

